№24(50)
18.08.95

# Беларуская маладзёжная

Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета • Заснавана ў чэрвені 1994 г.




*"Беларуская маладзёжная" аднаўляе выхад пасля адпачынку. Крыху "заадпачываліся", выбачайце, але не па сваёй волі.*

*Па-ранейшаму мы -- для вас. Калі і вы хочаце быць разам з намі, -- шукайце, купляйце, чытайце "Беларускую маладзёжную"! Пішыце. Званіце. Дапамагайце нам рэкламай -- вам -- вядомасць, нам -- незалежнасць.*

Мікола СТАТКЕВІЧ:

## У Грамадзе не будзе расколу, а новы блок будзе працаваць на Беларусь

( стар. 2 )

## TV программа на неделю

( стр. 4 )

## Алё, мы вас чуем!

Чытацкія пісьмы без каментароў

( стар. 5 )

● Увага: новая рубрыка "БМ"!!!



## "ДАМСКІ КАПРЫЗ"

( стар. 8 )

## Наш Вовчик и ROLLING STONES

( стар. 7 )

Сергей Толкачев, г. Пинск

## СЛОВА НАБИРАЮТ СИЛУ

*Глава из романа о писателе Александре Грине «Даровано судьбой»*

( стр. 6 )

## Яшчэ адно значэнне слова "БЕЛАРУСЬ"?

( стар. 3 )

# Каб жыць, трэба працаваць? Дык мы ўжо згодныя!

# ЗВАРОТ
## ветэранаў-дэмакратаў да насельніцтва Рэспублікі Беларусь

Дарагія суайчынікі!
Грамадзяне Беларусі!

Падзеі апошняга часу выклікаюць сур'ёзны непакой за далейшы лёс Бацькаўшчыны. Таму мы, ветэраны вайны і працы, людзі сталага веку, звяртаемся да вас з гэтай ухвалай.

Рэферэндум, які адбыўся на Беларусі 14 траўня гэтага года, дае ўжо зараз адмоўныя вынікі ў развіцці нашага грамадства. У будучым яго наступствы могуць стаць яшчэ горшымі, калі мы моўчкі ды безудзельна будзем назіраць за ходам падзей.

З паведамленняў у сродках масавай інфармацыі вядома, як антыбеларускія сілы ў многіх месцах фальсіфікавалі вынікі галасавання па рэферэндуму, маніпулюючы бюлетэнямі тых, хто як след не разабраўся, як і за што галасаваць, хто ўвогуле не прыйшоў на выбарчыя ўчасткі. Але былі сярод беларусаў і такія, хто сказаў "не" беларускай мове і нацыянальным сімвалам. Ці могуць яны лічыць сябе пасля гэтага беларусамі? Наўрад. Бо якія яны беларусы, калі выракаюцца роднае мовы! Але ж яны і не рускія, не палякі, не яўрэі, не літоўцы, якія адказна ставяцца да сваіх нацый, моў, сімвалаў. Нешматлікі чэчэнскі народ не шкадуе свайго жыцця дзеля абароны роднай зямлі. Адрачыся ад вызначальных прыкмет нацыі — мовы і сімвалаў — учынак глыбока амаральны, здрада сваім продкам, якія з годнасцю баранілі Бацькаўшчыну. Гэта здрада і ўласным нашчадкам. Няма мовы і нацыянальных сімвалаў — няма народа. Няма народа — няма Дзяржавы. Няма Дзяржавы — ніхто не абароніць інтарэсы нацыі. Над нашымі дзецьмі ды ўнукамі ўжо цяпер навісла рэальная пагроза ператварыцца ў гарматнае мяса ў канфліктах Расіі з яе суседзямі, стаць таннай рабочай сілай у новых, але такіх знаёмых гаспадароў.

Шаноўныя суайчыннікі — не беларусы па нацыянальнасці! Вы жывяце сумесна з беларусамі, на даных жыццёвых абшарах. Адны — з незапомных часоў, другія — з нядаўніх. Але наступствы Чарнобыльскай катастрофы, як і іншыя беды, аднолькава адмоўна ўздзейнічаюць на ўсіх нас. Само жыццё паказала: добра на беларускай зямлі беларусам — добра і ўсім, хто жыве і працуе поруч з імі. Толькі адстойваючы інтарэсы нашай агульнай Бацькаўшчыны — Беларусі, вы абароніце і свае інтарэсы. Але тыя з вас, хто сказаў "не" беларускай мове ды нашай адвечнай сімволіцы, хто бярэ удзел у антыбеларускіх арганізацыях, выступае супраць незалежнасці краіны, той сее зерне недаверу, нядобразычлівасці паміж людзьмі розных нацыянальнасцей. Не трэба сеяць вецер. Можна пажаць буру.

Грамадзяне, якія выказаліся на рэферэндуме за родную мову, за нацыянальныя сімвалы! Вы з'яўляецеся носьбітамі гонару нацыі. Па вашых паводзінах, па вашых учынках будуць меркаваць аб беларусах у цэлым свеце. Аб'ядноўвайцеся! Стварайце беларускамоўныя асяродкі там, дзе жывяце і працуеце. Гадуйце сваіх дзетак фізічна і маральна здаровымі, жыццеўстойлівымі. Выхоўвайце іх на лепшых традыцыях народа, у духу нацыянальнай свядомасці, адданасці Бацькаўшчыне. У сучасных умовах гэта цяжка, але магчыма. Не забывайцеся, што нас, шчырых патрыётаў незалежнай Беларусі, не так ужо і мала.

Дай Бог, нам сілу і веліч веры у нашу праўду і ў наш народ!

**Атаманаў Дзмітрый, Бубовіч Яўген, Бубовіч Лідзія, Бельская Святлана (Мінск), Бузаў Павел (Маладзечна), Белая Таццяна, Вольскі Артур, Габрусь Анастасія, Ерамеевіч Віктар, Забаўская Вольга, Касцюк Інэса, Курмаз Уладзімір, Касцюкевіч Васіль, Краснікаў Іван (Мінск), Лагодзіч Мікалай (Пінск), Ляпарская Ларыса, Лук'янцаў Уладзімір, Масалкова Ліна (Мінск), Мельнікаў Мікалай (Гродна), Малаковіч Надзея, Нямковіч Вацлаў (Мінск), Папянюк Віктар (Ляхавічы), Пухоўскі Аляксандр, Сарычава Юззфа (Мінск), Сосна Аркадзь (Маладзечна), Татур Мікола, Фалькоў Міхаіл, Хубаніна Эма (Мінск), Цярэшчанка Яўген (Верайцы, Пухавіцкі р-н), Чарнуха Міхаіл (Віцебск), Шкірманкоў Фелікс (Слаўгарад), Шарамет Альберт, Шыманец Леанід, Шчарбакова Галіна (Мінск), Шусціцкі Тадэвуш (Маладзечна).**

*Мікола СТАТКЕВІЧ:*

# — У Грамадзе не будзе расколу, а новы блок будзе працаваць на Беларусь



**— Мікола, гэта "Беларуская маладзежная", таму пытанні могуць быць не надта зручнымі...**

— Я гатовы, безумоўна.

**— Адбылося падпісанне пэўных дакументаў — і тры арганізацыі зліліся ў адзіны — сацыял-дэмакратычны — саюз...**

— Не, не так. Дакладна так сказаць нельга. Тры незалежных арганізацыі — Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Партыя народнай згоды і Усебеларуская партыя адзінства і згоды — аб'ядналіся ў блок, які завецца Сацыял-дэмакратычны саюз.

**— Дарэчы, чаму аб'яднаньне адбывалася ў Доме-музеі І з'езда — разлік на пэўны эпатаж? Намёк на нейкую пераймальнасць?**

— Безумоўна, арганізатары любой акцыі імкнуцца прыцягнуць да яе ўвагу. Але тут былі і больш глыбінныя прычыны. Я памятаю, калі ўтваралася сацыял-дэмакратычная Грамада, былі прапановы (і абмяркоўваліся сур'ёзна), каб адну з Цэнтральных радаў Грамады правесці ў гэтым доміку. Справа ў тым, што мы існуем у эпоху міфаў — не заўсёды вытлумачальных, часцяком перакручаных.

У гэтым доміку была ўтворана Расійская сацыял-дэмакратычная партыя. Было там 9 дэлегатаў. Там быў і прадстаўнік Беларусі. Потым гэтую партыю сталі зваць меншавікамі і знішчылі. Ніводзін з дэлегатаў не перайшоў у бальшавікі, адны былі знішчаны, другія ўратаваліся ў эміграцыі. Дарэчы, адзін з дэлегатаў таго першага з'езда потым супрацоўнічаў з Беларускай сацыялістычнай грамадой і нават абараняў на судовым працэсе ў Польшчы аднаго з братоў Луцкевічаў, заснавальніка Сацыялістычнай грамады.

Адбылася жахлівая рэч: мала, што бальшавікі знішчылі ўтвораную тут партыю, праследвалі і знішчалі дэлегатаў таго І з'езда, яны яшчэ забралі іх гісторыю. Забралі іх сімвал — зрабілі сімвалам сваёй — бальшавіцкай, камуністычнай — партыі, якая столькі бедаў нарабіла і нашаму народу, і іншым.

Падпісанне дакументаў аб блоку Сацыял-дэмакратычнага саюза ладзілася ў Доме-музеі І з'езда яшчэ і для таго, каб з'явіліся пытанні, падобныя на ваша, і была магчымасць патлумачыць людзям і гісторыю, і пераемнасць, і карані.

Ну, і канешне, месца падпісання прыцягнула ўвагу прэсы — амаль усе сродкі масавай інфармацыі асвятлялі падзею. Некаторыя добразычліва — як "Народная газета", некаторыя нейтральна — як "Звязда", некаторыя з яўным здзекам — як "Советская Белоруссия". Але людзі даведаліся пра гэту падзею.

**— Шмат гаворыцца пра тое, што не паспеў Статкевіч стаць лідэрам Грамады, як адразу ўзяў на сябе цяжар такой адказнасці: з'яднанне, пераўтварэнні. Ці прыспела гэта падзея? Ці не атрымліваецца: новая мятла ды па-свойму мяце?**

— Па-першае, калі ў Грамадзе ішлі выбары кіраўніцтва, я выступаў з гэтай праграмай. Выбары новага кіраўніка — гэта галасаванне Грамады за новую блокавую палітыку. Я па-сутнасці проста рэалізуе тое, што прапаноўваў.

Казаць пра з'яднанне і ўкладываць у гэты тэрмін самыя розныя сэнсы — не лепшы "контраргумент". Гаворка ідзе пра блок. Блок сацыял-дэмакратычных партыяў. Калі ў нас 30 партыяў — і каб людзі разабраліся ў іх, а, разабраўшыся, адчулі жаданне пайсці на выбары, нам патрэбна ўзбуйненне. І азначыць хоць бы на блоках: ліберальны, нацыянал-дэмакратычны, ці там хрысціянска-дэмакратычны, як яны сябе называюць. І сацыял-дэмакратычны. Я лічу здрадай Беларусі амбіцыі "самастойных" лідэраў "самастойных" партыяў. Гэта амбіцыі дробных царкоў, якія ўпіраліся да апошняга і давялі сітуацыю да таго, што зараз маем.

А тыя непрадуманыя заявы, што з'яўляюцца зараз, пасля афармлення блока, трэба залічыць на эмоцыі іх аўтараў. На жаль у нас зрабілася дурной традыцыяй — кожны адстаўны лідэр становіцца ў позу праведніка і пачынае палохаць расколам.

Адбылося пасяджэнне Цэнтральнай рады Грамады, і курс на стварэнне сацыял-дэмакратычнага блоку быў ухвалены.

**— Вы не маглі не чытаць у "Свабодзе" перасцярогу наконт народжанага союза: ці то ён "дзіця дэмакратыі, ці цацка прэзідэнта"?**

— Я чытаў. Але я, здаецца, на гэтыя пытанні ўжо адказаў. І партыя на Цэнтральнай радзе адказала таксама.

Дарэчы, напярэдадні падпісання на пасяджэнні Выканкама Грамады ўсе дакументы (у тым ліку, і пра месца падпісання) прымаліся аднагалосна. Мне дзіўна зараз чуць і чытаць тых людзей — нават не людзей, чалавека, — які сам галасаваў за гэтае рашэнне, а зараз вядзе размовы пра раскол і нейкую дыверсію.

**— А тое, што вялікая колькасць былых наменклатурных асобаў зараз хіліцца да Грамады, вас не насцярожвае?**

— Я думаю, што гэта — нармальная з'ява. Я памятаю, калі ўзнікаў БНФ і калі была зроблена заява, што тым, хто быў у кампартыі, нельга займаць кіруючыя пасады ў Фронце, — як гэта адштурхнула людзей, што былі вядомыя, дзеяздольныя, паважаныя ў грамадстве, няхай у час і ў межах той кіруючай сістэмы! Гэта ў тым ліку былі людзі патрыятычных поглядаў, да таго ж яны мелі вопыт кіравання, пэўныя магчымасці. У Прыбалтыцы гэтыя людзі ўдзельнічалі ў нацыянальным руху, яны зрабілі першыя крокі да незалежнасці. У нас пасля заявы "А вам нельга!" (ініцыіраванай, я думаю, з двух крыніцаў: з недраў спецслужбаў ды з боку той творчай інтэлігенцыі, якой хацелася быць у героях і якая баялася, што яе адцісьнуць з-за пэўнай нявопытнасці, няўмення, слабыя арганізацыйныя здольнасці), хваля адразу пайшла на спад. І з якімі цяжкасцямі мы зараз ідзем да незалежнасці!

Я найперш за ўсё патрыёт. І Грамада, і саюз — гэта будуць патрыятычныя арганізацыі, скіраваныя на беларускую дзяржаўнасць і адраджэнне нашай культуры. І калі зараз пад сцягі дзяржаўнасці становяцца ўсё новыя і новыя людзі — гэта вельмі слушна, вельмі добра. Гэта трэба толькі ўхваляць. Безумоўна, гэтым людзям трэба завяваць пэўны давер, але гэта, я думаю, пытанне часу і іх працы. Я думаю, калі мы будзем дзяліць на "чыстых" і "нячыстых", "капацца" давядзецца ў кожным. Я, напрыклад, як афіцэр, быў членам кампартыі. І што цяпер з гэтага? Хіба не зразумела, што для многіх партыйнасць была як пропуск да прафесійнага росту?

**— Мікола, чаму саюз з'явіўся ў такім складзе? І што ж вы так не паразумеліся з Партыяй здаровага сэнсу, ажно да своеасаблівага дэмаршу дайшло?**

— Тут я ўжо мусіў нават прасіць прабачэння ў сваіх калег па Сацыял-дэмакратычнаму саюзу... Але пытанне не ў колькасці. У нас 30 партыяў. Пераважная большасць — партыі-шыльды. Напачатку мы вялі перамовы толькі з Партыяй народнай згоды — яны маюць пэўныя структуры, вядомасць у грамадстве. ПНЗ прапанавала далучыць партыю ўсебеларускага адзінства і згоды. Я згадзіўся. У Магілеве, напрыклад, структуры гэтай партыі даўно вядуць працу на з'яднанне з арганізацыямі Грамады.

І было вырашана адразу адмятаць партыі, якія нічога за сабой не маюць. Але былі ў мяне кантакты з кіраўніцтвам Партыі здаровага сэнсу, і я не ўтрымаўся, прасіў калегаў прыняць гэту партыю. Але партыя (хоць, відаць, з вялікай нацяжкай яе можна назваць партыяй) вырашыла, мабыць, зрабіць сабе пэўную рэкламу і, можа, нейкі своеасаблівы ажыятаж палітычны. Імкнучыся нібыта далучыцца да саюзу — адмовілася. І адмовілася не як гэта робіцца прыстойна, а ў кульмінацыйны момант падпісання. Прыцягнула да сябе ўвагу — вы, мабыць, да гэтага кроку і не ведалі, што такая партыя існуе. Цяпер жа, калі гэта партыя будзе прымаць пэўныя памкненні да далучэння, я магу вас запэўніць, гэтага ніколі не адбудзецца. Усё ж хоць кажуць, што палітыка — брудная справа, але наколькі брудная — залежыць ад канкрэтных людзей. Мне здаецца, што гэтай партыі не хапіла здаровага сэнсу і адзінае, чаго яна дасягнула — аднамомантнага ўсплеску цікаўнасці да сябе.

**— І апошняе пытанне. З вашым зыходам у Грамаду, а зараз у кіруючыя органы Саюза, ці не застанецца сіратою БЗВ?**

— Казаць так — абражаць БЗВ. БЗВ — гэта не арганізацыя аднаго чалавека. У Згуртавання тры функцыі і адапаведныя ім аргструктуры. Крыло грамадска-патрыятычнае, найбольш масавае, вядомае, напрыклад, па акцыях Грунвальд, 8 верасня хутка будзе, святкаванне 75 угодкаў Слуцкага паўстання. Гэта выхаваўчая праца з моладдзю і грамадствам.

Есць крыло — дружыны рэгіянальныя аховы і бяспекі. Яны займаюцца барацьбой супраць злачыннасці — там, дзе дазваляюць мясцовыя ўлады. Праўда, дадзена жорсткае ўказанне ўсім органам унутраных спраў: не супрацоўнічаць з БЗВ. Да смешнага іншым разам: да нас звяртаюцца міліцэйскія чыны: кажуць, што патрэбныя дружыннікі, але акрамя нашых ніхто не ідзе. "Вы дайце людзей, але няхай яны маўчаць, што з БЗВ". Мы звычайна згаджаемся — нам важна не шыльда і не слава, няхай толькі больш парадку будзе на нашых вуліцах.

Акрамя гэтага крыло — назавем яго ўмоўна: палітычнае кіраўніцтва з функцыяй скаардынаваць патрыятычныя сілы. І нам удавалася. Успомніце антыкрызіснае пагадненне, Кансультацыйную нараду дэмакратычных патрыятычных сіл, якая дагэтуль працуе, Грамадскую кантрольную камісію на прэзідэнтскіх выбарах (потым некаторыя з удзельнікаў камісіі выступілі супраць таго, каб БЗВ яе ўзначальвала, БЗВ зышло — і дзе была гэтая камісія на парламенцкіх выбарах?)

Пасля мы зразумелі, што функцыі палітычнага кіраўніцтва ў межах БЗВ вычарпаны. І па-сутнасці, Статкевіч застаўся без працы, бо гэта была зона маёй адказнасці.

Лідэры кожнага з гэтых крылаў самадастатковыя, могуць забяспечыць існаванне, працу, развіццё па сваіх накірунках. Абавязкі кіраўніка БЗВ выконвае Алесь Станкевіч, будзе з'езд, ён абярэ нейкага кіраўніка. Тут праблемы не будзе.

*Гутарыла Т. НІЧЫПАРУК, "БМ"*

# Аб'яднанне партый -- дубль тры

Ідэя аб'яднання лунае, буяе і робіць палітычныя выкрутасы.

Магчыма, у нас хутка з'явіцца новая хрысціянска-дэмакратычная партыя. А можа, і не з'явіцца. Першы крок да яе -- кааліцыя з пяці партый, якая маецца быць зацверджанай вельмі хутка. Два гады таму была створана кааліцыя Сялянскай партыі (узначальвае сп. Лугін), Нацыянальнай партыі (сп. Астапенка) і Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучанасці (сп. Сілка). Па ініцыятыве апошняга вырашана зараз кааліцыю аднавіць, да яе мяркуецца далучыць Хрысціянска-дэмакратычны выбар (сп. Сарока) і Беларускую народную партыю (сп. Цярэшчанка).

Вядома з канфедыцыйных крыніц, з якімі цяжкасцямі ідзецца да аб'яднання: падзел грошай, улады і г.д. Да таго ж не вырашана пытанне аб сумеснай газеце "Час выбару" -- займаць вядучыя пазіцыі ў ёй хацелі б усе, але шкада грошай. Прэцэндэнт ужо ёсць, бо той жа Сарока сумна вядомы тым, што паўгады пратрымаў журналісцкі штат гэтай жа газеты, не даўшы на яе ні капейкі. З недаверам ставяцца да яго і патэнцыяльныя паплечнікі: партыя Сарокі стойка асацыіруецца з імем графа Прушынскага, што асаблівага гонару ёй не робіць. Складана і з Цярэшчанкам, які мае грошы і друкарню, таму хоча захаваць свой уплыў у новым аб'яднанні, моцна пасунуўшы астатніх, у тым ліку і ХДВ.

*Жана СІНІЦКАЯ, для "БМ"*

## Як жывем?



При прожиточном уровне в Литве, равном 70 литам, минимальный месячный оклад в июне равнялся 120 литам, а средний — 514 литам.

Больше всего в июне заработали сотрудники литовских банков (1467 литов), электроэнергетики (904 лита), сотрудники министерств и департаментов (796 литов) и работники газового сектора (758 литов). Самая низкая зарплата — у земледельцев (214 литов), работников сфер отдыха, культуры и спорта (314 литов), а также у работников социальной сферы (339 литов).

**TDN — РИД**

* * *

Пражытачны мінімум сярэднестатычнай сям'і з чатырох чалавек (двое дарослых і двое дзяцей — хлопчык і дзяўчынка) павялічыўся ў II квартале бягучага года ў параўнанні з I кварталам на 161 тысячу 242 рублі і склаў 722 тысячы 191 рубель на чалавека. Столькі грошай сям'і дастаткова, каб разлічыцца за камунальныя паслугі і сяк-так пражыць.

Аднак мінімальная спажывецкая карзінка разлічана ў цэнах чэрвеня, і ў бягучым квартале наўрад ці гэтых сродкаў хопіць.

Тая ж сям'я ў сакавіку магла пражыць на 560 тысяч 949 рублёў на аднаго члена. Па меркаванні спецыялістаў Міністэрства працы, за гэтыя "слёзы" можна было нешта набыць. Рыса беднасці, за якой, паводле даных міністэрства, у I квартале бягучага года знаходзілася звыш 50 працэнтаў насельніцтва Беларусі, праходзіла па лічбе 292 тысячы 395 рублёў. Столькі грошай было патрэбна аднаму чалавеку толькі на прадукты харчавання, прычым усяго па мінімуму.

**Жанна КАТЛЯРОВА**

"Звязда", 9 жніўня 1995 г.



# Яшчэ адно значэнне слова "БЕЛАРУСЬ"?

***З 27- га па 30-е ліпеня на мяжы Расіі, Латвіі і Беларусі кіламетрах у сямідзесяці ад гарадка Верхнедзвінска праходзіў 4-ты фестываль моладзі трох краін "БеЛаРусь" (назва — па першых складах найменняў рэспублік-удзельніц).***

Перад ад'ездам на фестываль больш дасведчаныя калегі скептычна пасміхаліся: "Камсамольскі фэст у лесе? Ой, будзе п'янка". І яны мелі рацыю ... Праўда, і мне было з чым параўнаць "БеЛаРусь" — 95, бо давялося быць роўна 4 гады таму на першым такім фестывалі.

Ідэя,. якой некалі кіраваліся стваральнікі лагера "БеЛаРусь" (а з нашага боку гэта быў Аляксандр Федута, у 92-ім годзе — першы сакратар ЦК Саюза моладзі Беларусі, правапераймальніка камсамола) была высакароднай і простай — сабраць на памежжы моладзь і прадэманстраваць палітыкам, што новастворанымя межы не ў стане знішчыць ніякае, а тым больш камсамольскае, сяброўства. Тады, 4 гады таму, саюзы моладзі былі, мабыць, багацейшыя, чым зараз, і маглі дазволіць сабе забяпечыць удзельнікаў харчамі і намётамі. Гэтым жа разам пра пракорм жыхароў летніка паклапаціліся хіба што латышы, прыгнаўшы выязны бар з завоблачнымі цэнамі (курыная нага — 25 тысяч, піва — 10). Беларусы ж забяспечылі аўтобус розных гарачыцельных напояў (кошты на выпіўку былі вартымі коштаў закускі). Два гэтыя фактары, разам узятыя, яскрава адлюстроўваліся на тварах большасці прысутных.

Адкрыццё фэсту прыпадала на Дзень Незалежнасці Беларусі. Мабыць, беларуская саюзная моладзь пачувала сябе настолькі незалежнай, што на фестывальнай эмблеме беларускі сцяг выглядаў наступным чынам: две трэціх — зялёнага колеру, трэць — чырвонага, прычым зялёны — зверху. Ну, тут ужо "кто как хатит"...

Але, згодна добра вядомаму запавету: "не судзіце і не судзімымі будзеце", асабліва актуальнаму для журналіста ў сучасных умовах, пяройдзем непасрэдна да змесга самога фестываля. Бадай, кожны прыкладна ўяўляе сабе, што мусіць адбывацца на такіх мерапрыемствах, таму — пра адметнасці.

Першая з іх (і асноўная) — гэта кампазітар Ігар Лучанок, які, нягледзячы на гучнае імя, начаваў у такім жа намёце, як і самы "зялёны" з удзельнікаў. На імправізаваным канцэрце-адкрыцці фэста песні кампазітара, як ва ўласным выкананні, так і спетыя разам з малавядомымі, але прафесіяналамі, мелі вялікі поспех.

Старшыня Дзяржкамітэта па справах моладзі РБ Міхась Падгайны, хоць і таксама прысутнічаў на адкрыцці, але адметнасцю не з'явіўся. Хутчэй, ён цяпер успрымаецца як неад'емны атрыбут падобных імпрэз.

Парадаваў спадар Каратчэня, даслаўшы не толькі пасланне, але і пасланніка — саветніка сп. Загубу. Пасланец СНД пазбавіў грамаду ад доўгіх прамоў, і замест гэтага "ужарыў" на гармоніку плясавую (казалі, гэты экспромт ён рыхтаваў два тыдні). Думаю, што калі б хаця палова дзяржаўных чыноўнікаў была здольная на такое, палітычнае жыццё Беларусі было бы куды вясёлым. Так што тым, хто прысутнічаў на адкрыцці фестываля "БеЛаРусь" было чым пахваліцца: не кожны дзень выпадае магчымасць патанчыць пад акампанемент славутага кампазітара і супрацоўніка апарата СНД.

Трэцяй адметнасцю стаў госць — спявак з Украіны. Ні песня, ні выкананне не ўраджвала, затое імя... Уявіце сабе — жывы Тарас Шаўчэнка. На наступны пасля адкрыцця ранак чырвоны пінжак і белыя нагавіцы ўкраінскага госця хаатычна мільгалі між намётаў, выдаваючы поўную разгубленасць іх уладальніка. На беднага Тараса проста забыліся, а між тым трэба было кіравацца на Мінск, каб паспець на Кіеўскі цягнік (а гэта, не многа — не мала — больш за 350 км). Дзякуй Богу, усё абышлося.

І яшчэ адна адметнасць, яна ж — адкрыццё для беларускай — за латышоў і рускіх не скажу — публікі. Маскоўскі пост-панк-гурт "Манго Манго". У сваім родным горадзе хлопцы выступаюць у начных клубах, на "БеЛаРусі" далі канцэрт больш як на дзве гадзіны — жывы гук, можна танчыць, слухаць, не прыходзячы ў шок ад відавочных ляпсусаў у тэксце, і атрымліваць асалоду ад дарэчных прыколаў. Карацей, і гурт добры, і песні цікавыя.

Апошняя адметнасць: акрамя беларусаў, прадстаўнікі дэлегацый між сабой размаўлялі на родных мовах: латышы — па-латышску, расейцы — па-расейску. А самае шыкоўнае выказванне пра фестываль належыць прадстаўніцы і супрацоўніцы Беларускага саюза моладзі Аксане: "Мы дружим их, они дружат нас". Разумейце, як хочаце.

Арганізатарам першага фестываля "БеЛаРусь" быў наш бок. Цяпер, праз чатыры гады, эстафета зноў вярнулася да беларусаў. Калі параўноўваць той фэст з гэтым, то трэба сказаць, што праграмы істотна не адрозніваліся: мясцовы варыянт клуба вясёлых і знаходлівых (тут гэта звалася "кто во что горазд"), канцэрты мастацкай самадзейнасці, дыскатэкі да світанку, спартыўныя спаборніцтвы. Словам, усё тое, што прысутнічае на любой маладзёжнай тусоўцы ў палявых умовах. Застаецца толькі паспачуваць Беларускаму саюзу моладзі ўвогуле і яго першаму сакратару Сяргею Дароніну ў прыватнасці. У наш час арганізаваць і правесці фестываль, нават "для сваіх" — справа нялёгкая. Тым больш, што старой камсамольскай гвардыі, падкаванай у такіх пытаннях, амаль не засталося (прынамсі, у грамадскіх арганізацыях). І калі на "БеЛаРусь" прыехалі нават са Свярдлоўска, значыць, было дзеля чаго. Прадстаўніца Расійскага саюза моладзі выказалася на гэты конт наступным чынам: "Калі мы пачнем задумвацца, ці варта ехаць у такую далечыню, значыць, мы пастарэлі".

А што да узросту большасці ўдзельнікаў, то, гледзячы на іх, узгадвалася сакраментальнае: "Комсомол, не просто возраст..." Думаю, не памылюся, калі скажу, што пакуль яшчэ камсамольскае мінулае — добры пачатак шляха да светлай будучыні. І таму, адкінуўшы папярэдні скептыс і іронію, заўважу, што тыя, хто сёння ў нефармальнай абстаноўцы "фестывальнічаў" з таварышамі з суседніх краін, заўтра, не выключана, будуць вырашаць лёс міждзяржаўных стасункаў. І тады, перш чым распачаць міжнародны канфлікт, уладары ўзгадаюць выпітую разам пляшку і спетую разам песню — і сваркі не адбудзецца. Калі так атрымаецца хаця б у дробязі, значыць мэта фестываля дасягнутая.

***Аля ВОЛІЧ, "БМ"***

# "... Мы чакаем перамен"

***На мінулым тыдні трохгадовы юбілей адзначыў Беларускі Рэспубліканскі Фонд Падтрымкі Дэмакратычных Рэформ імя Льва Сапегі.***

Да дзен народзінаў, юбілеяў прынята звычаіна гаварыць аб дасягненнях, поспехах, заваевах. Гость "БМ", старшыня праўлення Фонду Георгій Куневіч засяроджвае вашу ўвагу больш на праблемах.

Асноўную дзеінасць на працягу гэтых трох гадоў мы ажыццяўлялі па праграмах параўнальнага аналіза рэформ у краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Мы лічым, пазітыўная інфармацыя пра станоўчыя вынікі рэформ у краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы падштурхоўвае, спрыяе ініцыіраванню рэформ на Беларусі, таму будзем працягваць гэтыя праграмы і ў галіне муніцыпальных рэформ, у галіне развіцця рынкавай эканомікі, стварэнні дэмакратычнага грамадства па прынцыпах грамадзянскай супольнасці.

За тры гадымы ўсталявалі трывалыя сувязі з многімі навуковымі, грамадскімі, муніцыпальнымі арганізацыямі краін Цэнтральнай, Усходняй і заходняй Еўропы. У нас цесныя кантакты з уплывовымі міжнароднымі арганізацыямі, пачынаючы з Рады Еўропы, Польшчай, Венгрыяй, Германіяй, Даніяй.

Мы лічым, што патрэбна правядзенне кардынальнай рэформы дзяржаўнага кіравання і самакіравання ў Беларусі.

Зараз па нашай Канстытуцыі сістэма мясцовых органаў улады з'яўляецца дзяржаўнай сістэмай кіравання. Сістэма самакіравання — гэта ўжо іншы прававы механізм кіравання ў дзяржаве — праз выбарныя прадстаўнічыя органы. Інакш кажучы, гэта органы, створаныя народным шляхам выбараў, гэта механізм кіравання знізу. Той жа механізм-- цэнтралізаваны, адміністрацыйны, бюракратычны, які зараз існуе — ен цалкам паглынае восць гэту сістэму прадстаўнічых органаў улады.

Уведзена прэзіденцкая вертыкаль, зменены Закон аб самакіраванні, прававыя магчымасці Саветаў зараз нулявыя. Калі мы хочам зрабіць рэальную сістэму самакіравання, рэальную сістэму народаўладдзя, мы павінны прыйсці да тых прынцыпаў, якія выкладзены ў міжнародным дакуменце — Еўрапейскай хартыі тэрытарыяльнага самакіравання. Беларусь гэты дакумент яшчэ не падпісала, але адна з умоў, калі Беларусь хоча быць членам Рады Еўропы — падпісанне Еўрапейскай хартыі і прывядзенне ў адпаведнасць нашага заканадаўства. Дарэчы, на восень запланаваны візіт экспертаў Рады Еўропы з мэтай вывучэння адпаведнасці нашага заканадаўства агульнаеўрапейскім прынцыпам самакіравання.

Мы лічым, што тэрмінова трэба прыняць Закон аб падрыхтоўцы і правядзенні рэформы мясцовых органаў улады. У Беларусі Вярхоўны Савет чамусьці працаваў так: прымаецца закон — і справа зроблена. Адна справа — прыняць закон, другая — ажыццявіць выкананне закона, каб норма права, замацаваная ў законе, стала нормай жыцця. Тут неабходны час, патрэбны людзі, прафесіяналы, каб грамадскасць, выбаршчыкі, дэпутаты ўсвядомілі, як існаваць у новых сацыяльна-эканамічных, сацыяльна-палітычных умовах, карыстацца нормамі права.

Зараз ўся прававая база сістэмы кіравання, і дзяржаўная, і мясцовая, грунтуецца на старой прававой дактрыне, дактрыне цэнтралізаванага адміністартыўнага кіравання. Калі мы хочам залажыць канстытуцыйныя прынцыпы сацыяльнай рынкавай эканомікі, сацыяльна-прававой дзяржавы, рэальнага самакіравання, мы павінны перайсці на еўрапейскую, кантынентальную прававую дактрыну. А змена дактрыны — гэта змена амаль усяго заканадаўства. Трэба, каб прыйшлі новыя людзі, юрысты, правазнаўцы, парламентарыі, якія будуць закладваць тое, што называецца дэцэнтралізаваным механізмам кіравання.

На працягу усей дзейнасці парламенту 12 склікання я не памятаю, каб ВС сур'езна падыходзіў да праблемы рэфармавання структур кіравання: калі прымалася Канстытуцыя, раздзел пяты "Дзяржаўнае кіраванне і самакіраванне" быў прыняты цалкам без абмеркавання. Тыя прапановы, якія ўносіліся па кардынальнаму змяненню Закона аб мясцовым самакіраванні, таксама не былі ўлічаны. На наступным тыдні мяркуем правесці сустрэчы з кіраўнікамі камісій, дэпутатамі Вярхоўнага Савета і прапанаваць разгледзець нашы законапраекты на пасяджэнні прэзідыума, а потым і на сесіі.

Зараз фонд распрацоўвае фінансава-эканамічны блок законапраектаў: муніцыпальная маемасць, падаткі, зборы, праблемы муніцыпальных банкаў. Мы прапануем прыняць некалькі законаў аб адміністратыўнай юстыцыі, каб мясцовыя органы ўлады маглі праз сістэму адміністрацыйнага суда абараняць свае правы. Нашы эксперты працуюць над праграмай. "Праблемы дэмакратызацыі і развіцця грамадзянскай супольнасці на Беларусі", праводзяць сацыялагічныя даследванні па актуальных праблемах дэмакратычных рэформ, рыхтуюць серыю брашур па асновах самакіравання у краінах Цэнтральнай і Заходняй Еўропы (Даніі, ФРГ, Польшчы).Так што працы амаль што непачаты край.

***Мы віншуем усіх супрацоўнікаў і сяброў Фонду імя Сапегі з юбілеем, жадаем поспехаў у іх нялегкай, але вельмі патрэбнай справе. І каб сіл і натхнення хапіла давесці ўсе праграмы, законапраекты, задумкі да канца.***

